БЫЛОЕ И ДУМЫ

Игорь ШКЛЯРЕВСКИЙ

# ОЖЕРЕЛЬЕ сушеных грибов

*Страницы из будущей книги*

### От редакции

*В одном из минских издательств готовится к печати новая книга знаменитого поэта, уроженца Могилевщины **Игоря Шкляревского**. Он автор 26 книг, лауреат Государственных премий СССР и Российской Федерации, Царскосельской премии, награжден также Грамотой Патриаршего Экзарха всея Беларуси "Во внимание к трудам на ниве церковной, в память 2000-летия Рождества Христова". На средства поэта на берегу Припяти возле Петрикова посажен лес площадью 9 гектаров. Многие страницы будущей книги посвящены Беларуси и белорусам. Некоторые главы из нее Игорь Иванович предложил вниманию читателей "Народной Воли".*

Молодые Игорь Шкляревский и Рыгор Бородулин. 1963 г.

Игорь Шкляревский. Москва, Патриаршие пруды. 2016 г. Фото М.Скоблы.

### Материя света

1963 год. Полный синего воздуха Минск.

Оперный театр на холме напоминает римский Капитолий.

По проспекту в редакцию журнала идет и наслаждается свободой, раскуривая папиросу "Беломорканал", Рыгор Березкин. В светлой кепке и в светлом плаще…

Любую фальшь в поэзии он чувствовал за километр, как волк!

От Круглой площади (теперь – Победы) ему навстречу движется Борис Заборов. Над легкой лысиной сияет нимб необъяснимого происхождения, – все впереди!

Вдали – очки, бородка и берет Наума Кислика. Осколок от немецкой мины вспорол его красивый лоб, но не задел участки мозга, связанные с благородством и бескорыстной щедростью.

А вот и синеглазый Пимен Панченко, прищурился и весь сияет, написал стихи "Мінск едзе па грыбы" – "Непагоды памяло жоўтых лісцяў намяло…"

– Наум, переведи…

Сколько любимых призраков проходят по проспекту, когда я приезжаю в Минск…

Все дело в том, что нематериальная душа в материальном мире – самая материальная…

Вдали видна сиятельная голова добрейшего Петра Устиновича Бровки.

В издательстве "Мастацкая літаратура" набрали и рассыпали набор книги моих стихотворений "Я иду!" – как идейно незрелой.

Но Бровка спас ее!

Мою первую книгу…

Проспект любимых призраков моей полуголодной юности, "Элизиум теней", и если я дойду до площади Якуба Коласа, там улыбается Ефим Лапушин, готовый все отдать и всех обнять, но слезы не дают мне рассмотреть всех, кто идет навстречу.

Виктор Казько, Рыгор Бородулин, Владимир Некляев и Игорь Шкляревский в Петриковском лесхозе. 1988 г.

### Камень Константина Симонова

На Буйничском поле возле Могилева развеян прах поэта Константина Симонова. В первые дни войны он был корреспондентом, свидетелем растерянности и великих подвигов возле Борисова, возле Белыничей, на шоссейной дороге между Чериковым и Кричевом, где артиллерист Николай Сиротинин один вел бой с колонной немецких танков.

Двенадцать черных факелов висели над дорогой. Два часа – один он громил колонну Гудериана. Немецкий полковник приказал похоронить отважного артиллериста с воинскими почестями, тогда они себе такое позволяли.

У камня Константина Симонова собрались поэты, приехавшие из Москвы: Роберт Рождественский, Яков Хелемский (ветеран войны), Андрей Вознесенский. Положили на камень цветы. Никаких репродукторов не было, но в воздухе звучали строчки:

*– Жди меня, и я вернусь,*
*Только очень жди.*
*Жди, когда наводят грусть*
*Желтые дожди…*

Мы поклонились праху Константина Симонова, поэта и военного корреспондента, обладавшего личным бесстрашием в самые тягостные дни войны.

### Грибное ожерелье

Дмитрий Сергеевич Лихачев, почетный доктор многих европейских университетов (Парижа, Эдинбурга, Оксфорда), академик Российской, Австрийской, Болгарской академий наук, склонил свою серебряную седину, и я надел ему на шею ожерелье сушеных грибов.

– Теперь вы почетный грибник белорусских лесов.

– Спасибо за доверие! Запах грибов, – сказал он, – мой любимый запах.

– Это мой брат Олег собрал.

– Передайте мою благодарность Олегу Ивановичу.

Стояла затяжная осень с ночными моросящими дождями. Год не помню, но помню, что в автобусах и пригородных поездах было много счастливых людей с корзинами боровиков и подосиновиков.

Однажды по другому поводу Лихачев мне сказал:

– Большие и маленькие награды надо принимать с одинаковой благодарностью.

Приехали гости – Лев Александрович Дмитриев и Сергей Александрович Фомичёв – на запах!

Варился суп с грибами, собранными на Березине.

Было легко и радостно.

Запахи леса долго стояли в доме Лихачевых.

### Розы от Николая Игрунова

Летом 1989 года я приехал в Минск налегке, как в юности.

Брат был на съемках где-то возле Бреста.

Ефим Лапушин – адвокат с душой мечтателя – спасал кого-то в Шклове или в Полоцке.

Заночевать я мог у многих, но заснуть счастливым – не у каждого, а ведь и эта ночь – единственная… И я поехал к другу юности Вадиму. Он жил в микрорайоне Минска, уже не помню где.

Утром в квартиру позвонили. Вадим открыл, в дверях стоял курьер с букетом роз.

– Здесь остановился Игорь Шкляревский?

– Да, это я…

– От Николая Стефановича Игрунова*. Мы вас долго искали…

Чудеса на окраине Минска… Вадим и я стояли в изумлении.

– Это за твои леса на Припяти и на Десне, – сказал Вадим.

– Возможно…

Потом я познакомился с дарителем – светловолосым и приветливым, похожим на священника или на пастыря в старинном городе Европы, умеющим слушать, улыбаясь. В иные времена он стал бы настоятелем монастыря, приюта для убогих и больных, пристанищем для потерявших силы и надежды.

Таким был Николай Стефанович, на диво мягкого характера и благородного образа мыслей человек, служитель высокой (почти библейской) идеи равенства и братства, искаженной не по его вине – еще в начале утверждения, и Игрунов как мог старался возвратить ей чистоту и совесть.

А еще – не удивляйтесь – он был поэтом. Иногда у него получались стихи, от которых не отказался бы и Тютчев.

*Что сердцу не дает покоя,*
*Томит и сводит нас с ума?*
*Есть что-то в полночи такое,*
*Чего не знает ночь сама.*

И как уместно было пребывание его в застенчивой многострадальной Беларуси, неопалимой, как купина.

*Москва.*

** Николай Стефанович Игрунов… В то время он был вторым секретарем ЦК компартии Беларуси. До этого работал в Москве в ЦК КПСС. Пользовался авторитетом у творческой интеллигенции. – **Ред.***

100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ

# Кулікова поле

У маёй бібліятэцы ёсць кніга, якую я люблю браць у рукі не толькі для таго, каб перачытаць, але і яшчэ раз палюбавацца малюнкамі, пагладзіць "ціснутую" вокладку, нават панюхаць. Кніга тая валодае нейкай невытлумачальнай энергетыкай, якая адчуваецца і праз вымалеваныя на скарынаўскі манер загалоўныя літары, і праз створаную ўявай мастака карту Вялікага Княства Літоўскага з архітэктурнымі помнікамі, і, зразумела, праз сам тэкст: *"Неяк у Рыме пры сціжме людзей незлічонай / Сведкам відовішча быў я – бою быкоў на арэне…"*

Я маю на ўвазе "Песню пра зубра" Міколы Гусоўскага ў мастацкім аздабленні **Яўгена Куліка**, якая выйшла ў свет у далёкім 1980 годзе.

Кніга трохмоўная – у ёй змешчаны лацінскі арыгінал і пераклады на беларускую і рускую мовы Язэпа Семяжона і Якуба Парэцкага. Перад гэтым не адно дзесяцігоддзе ішлі зацятыя літаратуразнаўчыя спрэчкі: хто ён – Nicolai Hussoviani, і каму аддаць ягоную "Carmen de… bisontis". На любы нічыйны шэдэўр прэтэндэнты заўсёды знойдуцца. Прэтэндавалі і тут – і палякі, і літоўцы, і ўкраінцы. І знаходзілася тое Гусава то ў Польшчы, то ў Літве, то ва Украіне. Але ўсе спрэчкі аціхлі, калі "Песня пра зубра" пятнаццацітысячным накладам выйшла ў Мінску ў шыкоўным паліграфічным выкананні – можна было везці на любую сусветную кніжную выставу. І вазілі, і яна заслужана адзначалася ганаровымі дыпломамі. Але галоўнай заслугай таго выдання была навечная прыпіска Міколы Гусоўскага і яго "Песні…" у сярэднявечнай беларускай літаратуры.

У кнізе той быў змешчаны і першы партрэт Гусоўскага – з кнігай і дубовым лістком у руках. Ён ужо стаў хрэстаматыйным, іншым аўтара славутай паэмы мы сёння і не ўяўляем. Але і прыглядацца няма патрэбы: Гусоўскі на той выяве – гэта сам мастак, гэта амаль ягоны аўтапартрэт.

"Кананізаваў" Яўген Кулік у той кнізе і вялікага князя Вітаўта. Прынамсі, усе вядомыя мне яго пазнейшыя выявы "адштурхоўваліся" ад Кулікавай выявы, дзе князь сядзіць на вялікакняскім троне пад Пагоняй (і гэта было надрукавана ў 1980 годзе!).

На згаданых графічных аркушах у куточку можна заўважыць някідкую манаграму: дзве літары – ЯК – у крузе. Гэтыя ініцыялы мастака можна прачытаць і як пытанне, на якое Яўген Кулік ведаў адказ.

Ён ведаў, ЯК вярнуць Гусоўскага Беларусі.

Ён ведаў, ЯК згуртаваць мастакоў вакол нацыянальнай ідэі – і паўстала суполка "Пагоня", актыўная і ў наш час.

Ён ведаў, ЯК пад носам у КДБ (цераз праспект – у той час імя Леніна, цяпер – Незалежнасці) стварыць штаб нацыянальнага Адраджэння, пазней вядомы як суполка "Паддашак", якая была генератарам і рухавіком шматлікіх мастацкіх акцый, скіраваных на абуджэнне нацыянальнай памяці.

Ён ведаў, ЯК у самыя беспрасветныя бээсэсэраўскія часы, калі ў "дакастрычніцкай" гісторыі Беларусі як бы і не існавала, нагадаць усім пра Беларусь тысячагадовую. Калі паштоўка Яўгена Куліка пад такой назвай разляцелася па ўсім свеце (яе перавыдалі беларусы замежжа), супрацоўнікі КДБ з ног збіліся, шукаючы аўтара, ды так і не знайшлі. А ён сядзеў у сваёй майстэрні, на сваім заканспіраваным "Паддашку" – у нейкай сотні метраў ад "Камітэта Глыбокага Бурэння" – і прыдумваў новыя адраджэнскія праекты.

Ён ведаў, ЯК павінна выглядаць Пагоня ў якасці сімвала дзяржавы, і стаў адным з аўтараў Герба Рэспублікі Беларусь.

Ужо толькі за ўсё пералічанае Яўген Кулік заслугоўвае ўдзячнай памяці "ныне, прысна і давеку". А яшчэ ж нялішне згадаць, што гэта ў яго майстэрні і з яго чынным удзелам напрыканцы 1980-х збіралася моўная камісія Беларускага фонду культуры, напрацоўкі якой сталі асновай для прынятага ў 1990 годзе Закона аб мовах, паводле якога беларуская мова стала адзінай дзяржаўнай у Беларусі.

Як на добры лад, на доме №18 па праспекце Незалежнасці, які прытуліў на сваім "Паддашку" Кулікову майстэрню (а ў ёй і ўвесь тагачасны адраджэнскі рух), варта павесіць мемарыяльную шыльду. Дарэчы, калі мастак пераязджаў у новую, больш прасторную, майстэрню на вуліцы Танкавай, дапамагчы яму прыйшлі больш за тры дзясяткі чалавек. І гэта была ці не самая шматлікая талака ў мастакоўскім асяродку за ўсе часы. Адзін з талакоўцаў пазней успамінаў: работы хапіла ўсім, адных кніг гаспадар "Паддашка" сабраў тысяч пяць, а ліфта ў доме не было.

Я неаднойчы бачыў Яўгена Куліка на мастацкіх выставах, размаўляў з ім, распытваў пра ягоныя сустрэчы з Ларысай Геніюш у Зэльве. Спадар Яўген гаварыў ціха, але, здавалася, прамоўленыя ім словы ўваходзяць не ў вушы, а наўпрост у душу. Ён ніколі не пяўся наперад, да мікрафона, стаяў збоку. І – дзіўным чынам – "перад" быў там, дзе стаяў Кулік, гэта адчувалася. Да мастака ўвесь час падыходзілі людзі.

У мяне над сталом вісіць яго невялічкі, 18х23 см, графічны аркуш – падарунак Уладзіміра Крукоўскага. На тым аркушы можна ў падрабязных дэталях разгледзець напаўразбураныя вежы Наваградскага замка і Фарны касцёл, дзе хрысціўся Адам Міцкевіч і браў шлюб кароль Ягайла. А ўнізе закальцаванае ЯК – пытанне і падказка, як і што рабіць, – ад вялікага беларуса Яўгена Куліка, які ў неспрыяльных умовах зрабіў вельмі шмат і даказаў, што і адзін у полі воін.

Захоплены і спустошаны непрыяцелем беларускі абшар абараніў і нанова засеяў **Яўген Кулік**, якому **31 кастрычніка** споўнілася б **80**.

Волат не целам, а духам, ён бясстрашна выйшаў на сваё Кулікова поле.

Выйшаў і перамог.

ПРЕЗЕНТАЦИЯ

Анатолий АЛАЙ:

# «Говорить с киноэкрана правду и только правду!»

*4 ноября в рамках кинофестиваля «Лістапад» в Музее истории кино в Минске состоялась презентация фильма **«Черный ворон»** (автор сценария – **Игорь Осинский**, режиссер – **Анатолий Алай**).*

В последние годы интерес к документальному кино значительно упал. На это есть как объективные, так и субъективные причины. Молодежь находит интересующую ее информацию в социальных сетях, люди старшего поколения озабочены хлебом насущным. Отчасти повинны в этом и сами кинодокументалисты. Киностудия «Беларусьфильм», в фильмографии которой есть немало подлинных шедевров художественного и документального кино, переживает не только финансовый, но и творческий кризис. На создание новых картин выделяются скудные средства. Министерство культуры РБ жестко контролирует тематику и метраж, руководствуясь порою не требованиями дня, а идеологическими догмами. С режиссерами, не имеющими утвержденной заявки, трудовые контракты на время простоя расторгаются. Оказавшись в такой ситуации, многие из них стараются держать нос по ветру, не слишком беспокоясь о том, вызовет ли их работа интерес у широкой аудитории.

Фильмы заслуженного деятеля искусств, народного артиста Беларуси Анатолия Алая представляют в этом смысле приятное исключение. Среди снятых им 25 картин нет ни одной, не отмеченной дипломами престижных фестивалей. Дебютный фильм «Не плачьте обо мне» о художнике Александре Исачеве до сих пор остается самым кассовым в истории белорусского документального кино.

«Черный ворон» продолжает тему Великой Отечественной войны, проходящую красной линией через все творчество именитого режиссера. По сути, это вторая часть фильма «Черная дорога», в которой Анатолий Алай рассказал о поиске своего отца, пропавшего без вести в первые дни войны; новая лента приближает к развязке эту драматическую историю, длящуюся уже 75 лет.

В Музее истории кино не скрывают: на просмотре некоторых документальных фильмов рассчитанный на 50 мест зал бывает наполовину пуст. На этот раз желающих посмотреть новую работу Анатолия Алая оказалось так много, что пришлось в спешном порядке расставлять дополнительные стулья.

Рассказывать, о чем фильм, не имеет смысла, его нужно смотреть. В нем важно все: и художественный замысел, и операторская работа, и документальный ряд, органично и неназойливо вплетающийся в повествование, и тональность дикторского текста и музыки.

Фабула киноленты предельно проста – объехав в поисках следов отца почти полмира, сын узнает от сотрудника Комитета госбезопасности Беларуси, что по сведениям, поступившим из немецкого исследовательского центра «Саксонские мемориалы», в его архиве находится учетная карточка военнопленного Ивана Алексеевича Алая. Съемочная группа незамедлительно отправляется в Дрезден.

Казалось бы, о бесчеловечном содержании советских военнопленных в гитлеровских концлагерях уже рассказано все до мельчайших подробностей. Увы, нет! Зрителя ждут страшные кадры: бесконечно тянущаяся колонна совершенно нагих, униженных людей, подгоняемых прикладами охранников, картины каннибализма... От ужаса невольно хочется закрыть глаза. Но голос историка-очевидца предупреждает с экрана: это не сон разума, чудовища рождены нацизмом.

Последняя запись в учетной карточке красноармейца Ивана Алая датирована 16 октября 1942 года. В этот день он совершил побег. О том, как сложилась его дальнейшая судьба, могут рассказать отметки, которые делались на оборотной стороне карточки. Но в ее копии их нет. А где оригинал? В Минске… в архиве КГБ!

Заключительные кадры фильма: в дрожащих от волнения руках сын держит пожелтевшую от времени папку с тайной его отца, перелистывает страницу за страницей. Вот он, оригинал учетной карточки военнопленного Ивана Алексеевича Алая. Сейчас он перевернет ее и… Оборотная сторона карточки пуста! С уст Анатолия Алая готов сорваться вопрос: «А не могли ли в интересах ведомства убрать компрометирующие его записи?» Но он так и не задаст его. Улыбка сотрудника КГБ красноречивее слов…

Погас экран. Несколько мгновений в кинозале царит молчание. Увиденное требует осмысления. Наконец звучит первый вопрос: «Будет ли демонстрироваться фильм «Черный ворон» на телеэкране? В наши дни, когда на Западе предпринимаются попытки переписать Историю и находятся люди, готовые поверить в то, что зверства фашистов – всего лишь выдумки пропаганды, это крайне важно!» Анатолий Алай с горечью рассказал, что ведущие телеканалы почему-то, по не известным ему причинам, отказались включить ленту в свои программы, а руководство киностудии не посчитало нужным отправить ее на кинофестивали. В зале недоумение. Высказываются различные догадки.

Одно из предположений: в фильме есть сцены, которые не нравятся наверху, – с картинами Анатолия Алая так бывало не раз. Скажем, эпизод, в котором рассказывается о том, что сотрудники НКВД получили приказ расстрелять жену пропавшего без вести Ивана Алая и их малолетнего сына. Ее вина заключалась лишь в желании узнать правду о судьбе мужа, о чем и просила в письме к Лаврентию Берии. Несчастную женщину-врача вывели на обрывистый берег Днепра в районе Ново-Быхова. За мгновение до выстрела один из чекистов усомнился: «А в ребенка тоже стрелять?» Что-то дрогнуло в душе старшего по конвою. «Пусть живут! Скажем, что приговор исполнили. Проверять не станут».

Наверняка смутят кого-то и откровения двоюродного брата Анатолия Алая, считающего, что в зверствах оккупантов повинны отчасти и сами мирные жители, помогавшие партизанам…

Собственную версию высказал известный московский кинокритик Леонид Павлючик, освещающий фестиваль «Лістапад»:

– В фильме «Черный ворон» задана слишком высокая профессиональная планка, ему может не оказаться конкуренции, а это всегда снижает интерес к конкурсной программе.

Не берусь судить, чья версия более близка к истине. Но в одном не сомневаюсь: Анатолий Алай остается верным своему кредо: говорить с киноэкрана правду и только правду, какой бы горькой она ни была! Как и в том, что подлинными судьями его творчества могут быть только зрители. Им и решать, удалась ли его новая картина. По-моему, результат предрешен.

**Игорь КЛЕНОВ.**

*P.S. Карыстаючыся нагодай, рэдакцыя газеты «Народная Воля» шчыра віншуе **Анатолія Іванавіча Алая** з 77-годдзем, якое ён нядаўна адзначыў. Трымайся, дружа, моцнага здароўя і творчага плёну на далейшым жыццёвым шляху!*



ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО

На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА "Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў" Васіль ВАЛАСЮК

### Згубіў гарантыйны талон

*Зламалася мікрахвалёвая печка, хаця яна яшчэ на гарантыі. Не магу знайсці чэк з магазіна і гарантыйны талон. Што рабіць у такой сітуацыі?*

**Пётр ЯНУШКЕВІЧ, в.Пухавічы.**

– На жаль, нічога добрага ў такой сітуацыі для вас няма. Калі спажывец згубіў гарантыйны талон, то абавязаны рамантаваць тавар за свой кошт.

### У кававарцы не хапае дэталяў

*Купіла кававарку. Калі ўважліва пачала правяраць яе дома, заўважыла, што не хапае насадкі з пераключальнікам, каб запеніваць малако. Ці магу вярнуць тавар назад?*

**Валянціна ДРОЗД, Мінск.**

– Можаце вярнуць на працягу 14 дзён.

### Машыну прывезлі не ў той упакоўцы

*Набылі пральную машыну LG, работнікі магазіна прывезлі яе нам дадому. Прывезлі ў тэрмін і ў належным стане. Але была адна недарэчнасць – машына знаходзілася ва ўпакоўцы ад пральнай машыны INDESIT. Мы зрабілі аб гэтым адзнаку ў паперцы аб дастаўцы тавару, але ў мяне пытанне: ці можна было вярнуць тавар назад?*

**Сям'я БОЛБАС, г.Барысаў.**

– Вы маглі патрабаваць замену тавару, калі яго прадалі не ў сваёй упакоўцы.

### Замяніць гародніну

*На працягу якога часу пасля пакупкі прымаюцца прэтэнзіі па якасці тавару, калі размова ідзе пра прадукты харчавання (гародніну)?*

**Святлана ПІЛІПЕНКА, г.Ваўкавыск.**

– На працягу 7 дзён.

### Замест арэха – камень

*У магазіне купіла шарбет з арэхамі, але, як толькі пакаштавала, мне трапіўся каменьчык. Добра, што зуб не зламала… Куды звярнуцца са скаргай? І як пакараць магазін? Гэта ж дзеці маглі з'есці…*

**Алена ПІСАРАВА, Віцебск.**

– Аформіце прэтэнзію на адрас магазіна і, згодна з артыкулам 18 Закона аб абароне правоў спажыўцоў, можаце патрабаваць кампенсацыю маральнага ўрону.

### Экспертыза для фотаапарата

*Набыў фотаапарат, праз тыдзень ён зламаўся. У магазіне рабіць рамонт альбо замяніць тавар адмовіліся. Кажуць, што, маўляў, сам пабіў фотакамеру, а гэтага на самай справе не было. Падкажыце, што можна зрабіць у такой сітуацыі.*

**Валянцін ЦІХАНОВІЧ, г.Лепель.**

– Такую спрэчку можа вырашыць толькі экспертнае даследаванне тавару. Эксперт вызначыць прычыну недахопу. Калі спажывец не вінаваты, кошт экспертызы прадавец абавязаны яму вярнуць.

### Вярнуць астатак тканіны

*Набыла ў магазіне астатак тканіны. Дома ўбачыла, што тканіны не хапае, каб пашыць тое, што задумала. Ці можна вярнуць тавар у магазін? Мне тканіну не рэзалі, а, як ужо казала, прадалі астатак… Чэк захаваўся.*

**Святлана КАПЫЛ, г.Маладзечна.**

– Нельга.

### Не падышлі шторы

*Набыла на распродажы шторы для кухні, але яны мне не падышлі. Ці можна вярнуць тавар і забраць грошы?*

**Ніна КАНДРАТАВА, г.Рэчыца.**

– Набыты тавар, які не падышоў вам па памеры ці фасоне, можна альбо замяніць, альбо вярнуць, атрымаўшы назад грошы.

### Набыў някасную куртку

*Купіў куртку, апрануў яе ўсяго тры разы – і зламалася "маланка". Чэк захаваўся. З моманту пакупкі прайшло 5 дзён. Ці маю я права вярнуць куртку назад у магазін і атрымаць свае грошы?*

**Андрэй АСТРЭЙКА, Гродна.**

– Можаце, але прадавец мае права замяніць "маланку" і вярнуць тавар назад.

### Не падабаецца колер тэлефона

*Ці можна вярнуць у магазін мабільны тэлефон на працягу 14 дзён з моманту набыцця і забраць грошы, калі мне не падабаецца колер тэлефона?*

**Сяргей ЗУБРА, г.Вілейка.**

– Тэлефон можна вярнуць у тым выпадку, калі ў ім ёсць істотны недахоп.

ХТО ЁСЦЬ ХТО

# ЯНУШ ПАРУЛІС – збіральнік даўніны і аднаўляльнік храмаў

*Музей быту… Пагадзіцеся, не ў кожным горадзе ён ёсць. А вось Гродна ім можа пахваліцца. Размешчаны ён па вуліцы Лермантава побач з Каложскім паркам у доме, у якім у свой час нават жыў знакаміты пісьменнік Алесь Карпюк. Заснавальнік – 74-гадовы **Януш Парулiс**, чалавек вялікай энергіі і апантанасці, які сабраў тысячы экспанатаў (!). Як тут не пагаварыць з ім!*

**– Адкуль такое прозвішча – Паруліс?**

– Яно грэчаскае. Побач з Гродна ёсць вёска Гожа, дзе сёння знаходзіцца ваенны палігон. На яго тэрыторыі маюцца два азярцы. Побач з імі калісьці была цэлая вёска Парулісаў. Цяпер яны параскіданы па ўсім свеце.

**– Ці адчувалі ў сабе грэчаскую кроў?**

– Пасля заканчэння сярэдняй школы, так бы мовіць, грэчаскі певень дзеўбануў мне ў адно месца, і я, як дурны, пабег здаваць дакументы ў мараходную школу. Я вучыўся ў Кранштаце і практыку праходзіў на "Крузенштэрне". Але так атрымалася, што хадзіў па моры нядоўга. Лодка, на якой працаваў, танула тры разы за два гады. Падумаў: чацвёртага разу быць не павінна. Калі вярнуўся дахаты, то потым даведаўся, што многія мае аднакурснікі пайшлі на той свет. Гэта былі часы Карыбскага крызісу. 14 чалавек з майго выпуску загінулі.

**– Чым займаліся пасля вяртання на Радзіму?**

– Прыехаў у Гродна, працы не было. Дзядзька па блаце ўладкаваў мяне ў электрасеткі, а я пакуль скончыў курсы і пайшоў шафёрыць. Працаваў на прадуктовай базе, развозіў усё ўсялякае па барах і рэстаранах. Адначасова вучыўся – скончыў будаўнічы тэхнікум, які называлі "Шлёмаўскай акадэміяй" – па прозвішчы дырэктара Шлёмы. Вельмі добры тэхнікум, моцныя веды атрымаў. Падпрацоўваў рамонтам касцёлаў і цэркваў. Першы аб'ект – брыгіцкі касцёл, дзе мне нават даверылі размаляваць частку алтара.

**– У часы Савецкага Саюза можна было рамантаваць касцёлы і цэрквы?**

– Так, толькі ў часы Чарненкі і Андропава мяне ледзь не пасадзілі, заўважыўшы на касцёле ў Струбніцы. Толькі дзякуючы дырэктару мастацкіх майстэрань Шыкуцю мяне гэта абмінула. Усяго я адрамантаваў 27 касцёлаў і цэркваў.

**– У якіх месцах?**

– Акрамя Гродна, у Ваўкавыску – касцёл і царкву. Потым Рагозніца, Ляцк, Струбніца, дзе каралева Бона пабудавала храм, і некалькі касцёлаў аднавіў нават за мяжой, як у Эльблонгу.

**– А як заняліся мастацкім афармленнем?**

– Спачатку працаваў майстрам, прарабам. Затым перайшоў у рэкламны камбінат. Быў час, калі працаваў рабочым у сінагозе, дзе знаходзіліся мастацкія майстэрні. Праз некалькі месяцаў стаў ужо мастаком-выканаўцам і прапрацаваў сем гадоў. Займаўся мазаікамі, насценным роспісам, жырандолямі. Нават два месяцы правёў на шклофабрыцы "Нёман" у Бярозаўцы, дзе кантраляваў якасць прадукцыі. А як толькі дазволілі ствараць кааператывы, я адкрыў восьмы па ліку ў Гродне кааператыў – па інтэр'ерах. Добраўпарадкоўваў школы, садкі.

**– А чым займаліся пасля развалу Савецкага Саюза?**

– Міжнароднымі выставамі. Пачаў з Гродна, затым Вільнюс, Калінінград. Я паспяхова займаўся гэтым, пакуль не ўвялі ліцэнзаванне…

**– А як далей склалася жыццё?**

– Працягваў рамонт касцёлаў, займаўся інтэр'ерамі. Я ўвесь час нармальна зарабляў. Праўда, не адмаўляўся ні ад якой работы.

**– А калі пачалі збіраць старыя рэчы?**

– Гэтым яшчэ мой дзед займаўся. Старыя хаты ў Гродне развальваліся, і рэчы з іх пераходзілі да нас.

**– А як з'явілася ідэя музея?**

– Гэтай ідэяй жыў здаўна. Я яшчэ марыў зрабіць сваю кавярню-рэстаран. Па вуліцы Тэльмана нават у адным з падвальных памяшканняў зрабіў рамонт. Але гэты будынак у мяне забралі. Гэта ж былі 1990-я. Цяпер там месціцца банк.

**– Якія з сабраных ста тысяч экспанатаў лічыце самымі каштоўнымі?**

– Тыя, якія блізкія майму сэрцу і якія належалі нашай сям'і, як, напрыклад, грамафон майго дзеда ці яго каска пажарнага.

**– Цяжка падтрымліваць дзейнасць музея?**

– Вядома ж. Два месяцы вялі добраўпарадкаванне, і наведвальнікі не маглі ў музей патрапіць. Прыйшлося нават прадаваць экспанаты, каб выжыць.

**– Як паўплываў бязвізавы рэжым на наведвальнасць?**

– Спачатку было добра. Прыехалі польскія турысты на некалькіх аўтобусах, завіталі літоўцы… Але калі б не мінчане, то я даўно закрыўся б. Некаторыя прыязджаюць і гадзінамі вывучаюць нашы экспанаты.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**

*Гродна.*

ДЛЯ ВЯСЁЛАЙ КАМПАНІІ

# Ой, пайду я лугам, лугам

Словы і музыка народныя.

Ой, пайду я лугам, лугам –
Ну ды я, ну ды я!
Дзе мой мілы арэ плугам –
Ну ды я, ну ды я! } *2 разы*

Занясу я яму есці –
Ну ды я, ну ды я!
Ці не скажа ён мне сесці –
Ну ды я, ну ды я? } *2 разы*

Ён наеўся і напіўся –
Ну ды я, ну ды я!
Сеў на раллю, зажурыўся –
Ну ды я, ну ды я! } *2 разы*

– Што ж ты сядзіш, што ж не ворыш –
Ну ды я, ну ды я?
Што ж да мяне не гаворыш –
Ну ды я, ну ды я? } *2 разы*

– А я сяджу дый думаю –
Ну ды я, ну ды я,
Што ліхую жонку маю –
Ну ды я, ну ды я! } *2 разы*

– Ці ж ты сватаў мяне ў ночы –
Ну ды я, ну ды я?
А дзе ж былі твае вочы –
Ну ды я, ну ды я? } *2 разы*

– Каб жа ты была такая,
Ну ды я, ну ды я,
Як і мая братавая –
Ну ды я, ну ды я! } *2 разы*

– А я бровы ў сажу ўмажу –
Ну ды я, ну ды я.
Братавую пераважу –
Ну ды я, ну ды я! } *2 разы*

ЖИТЕЙСКАЯ АЗБУКА

# Надо ли обходить стороной фитнес-центры?

*Последние годы заботу о теле возвели в культ. Дело понятное – фитнес-центры и тренажерные залы получают немалую прибыль от фанатов здорового образа жизни, у девушек есть отличная возможность опубликовать фотографии себя красивых в социальных сетях, а парни при любой возможности играют мышцами на виду у вышеупомянутых представительниц прекрасного пола. Все бы вроде и хорошо, только вот не всегда занятия для здоровья идут этому здоровью на пользу. Отсюда и проблемы с сердцем, растяжения, травмы.*

*О серьезном отношении к серьезным вещам мы поговорили с **Эдуардом Эдуардовичем Бизюком,** четырехкратным чемпионом Беларуси по бодибилдингу, обладателем Кубка Европы среди мастеров 2015 года, чемпионом Бельгии 2015 года.*

– Незнание строения собственного тела ведет к тому, что человек вгоняет себя в ступор, – **считает Эдуард Бизюк.** – Многие отказываются от обычной пищи в пользу протеиновых коктейлей. Да, они вкусные, но наш организм и желудок заточены под твердую пищу. Мы же не травоядные, мы хищники, поэтому у нас и клыки остались. Это у жвачных коров четырехкамерный желудок, а мы должны есть все. Отказ от белковой пищи (мяса, яиц, творога) ведет к тому, что надо съесть целое дерево, чтобы набрать достаточное количество полезных веществ. У нас на это времени нет – мы работаем, отдыхаем, растим детей. Нет возможности целый день стоять и жевать.

Если говорить о тренировочном процессе, то многие не соотносят свои возможности со своими желаниями. Они приходят в тренажерный зал с уже сформировавшимся организмом. Начинают давать себе большие нагрузки и не могут понять, к примеру, почему у них кружится голова или почему тошнит во время занятий на беговой дорожке. Всему есть объяснение. Организм не готов сразу воспринимать серьезные нагрузки, не надо бросаться с места в карьер. Отсюда и огромное количество травм. Они могут проявляться не сразу, но, будьте уверены, рано или поздно они дадут о себе знать. Странно, что сейчас, когда есть столько возможностей найти полезную информацию, никто не хочет в этом разбираться, хотя бы узнать, с чего стоит начать заниматься, как питаться правильно.

**– Так с чего все-таки надо начинать?**

– Мужчины должны выполнять одно-два упражнения на каждую мышечную группу: на ноги, спину, грудь, плечи, руки и пресс. Не надо придумывать себе какие-то сложные упражнения, которые требуют координации: приседания, тяги и т.д. Когда нет техники выполнения, появляются травмы.

Что касается ног, хорошим выходом будет выпрямление либо жим ногами. Главное – соблюдать фазность движения: негативная часть чуть медленнее, позитивная – быстрее.

Для мышц спины отлично подойдет тяга верхнего и горизонтальных блоков на тренажерах.

Сейчас в каждом зале есть тренажеры, которые имитируют горизонтальный жим и жим вверх головой. Используйте их для укрепления мышц грудной клетки. Ибо если это делается штангой и делается неправильно, никакого эффекта не будет. Штанга будет опускаться куда угодно: на шею, на подбородок, только не туда, куда надо.

Что касается плечевого пояса, подойдут упражнения с разведением рук в стороны с гантелями, выведением их вперед. Тут в филигранной технике необходимости нет.

Для бицепсов отлично подойдет штанга. Для трицепса разгибание в блоке – то, что доктор прописал. Только не надо делать французский жим. В американских журналах его уже называют skull crusher – разбиватель черепа. Это травмоопасное упражнение для тех, кто не владеет техникой выполнения.

Затем работаем над прессом, поднимаем туловище на наклонной доске. Вот и вся наука.

Женщинам все надо делать чуточку иначе. У них меньше мышечная масса, гормональный фон совершенно другой, есть депозитные места, где скапливается жир. Для нижней части тела полезны будут упражнения с отведениями в блоке, выпады на месте или во время ходьбы, гиперэкстензия. Обратим внимание и на многоповторность упражнений. Женские мышцы по большей части состоят из красных мышечных волокон. Поэтому 20–30 повторений будут самыми полезными. Что касается верхней части тела, хватит и 8–12 повторений. Надо добавить чуть больше отягощений, чтобы укреплялись плечи, руки и спина.

**– Получается, что лучше заниматься самому, а фитнес-центры обходить стороной?**

– Нет, почему? Там есть возможность провести первые несколько тренировок с инструктором. Таким образом вы сможете скорректировать свою программу. В то же время надо понимать, что перед занятием лучше попросить администратора охарактеризовать тех, кто вас будет тренировать. Я в одном зале видел, как 56-летний мужчина, не имея возможности встать целиком на стопу, приседал на носочках. И жаловался на то, что он чувствует дискомфорт. А инструктор стоит, как, простите, последний осел, и не может помочь человеку. Я подложил ему под пятки «блины», и все стало хорошо.

Часто инструкторы никакие. Они не заканчивали специализированных вузов, самоучки, так сказать. Вот говорят: у нас работают одни чемпионы. Чемпионы в чем? Если это пауэрлифтеры, они будут потчевать своих подопечных тем, что ближе им самим, а не тем, что надо вам. То же касается и бодибилдеров и т.д. Есть и приходящие инструкторы, которые приводят друзей, а те приводят своих знакомых… А по факту занятия ни о чем.

В стенах БГУФК, не совру, так как сам там работаю, также обучают инструкторов. Но тут они, поверьте мне, получают знания по полной программе. Всегда обучаю их таким образом, чтобы они, как и врачи, не могли навредить человеку. Другое дело, что, когда они выходят «в люди», кто-то продолжает выполнять свою работу правильно, а кто-то ложится под общий уровень и делает так, как все. Бывает, читаю критику в свой адрес: дескать, ругаюсь на них очень сильно. Но всегда предупреждаю сразу: не тупите. Ваши мозги должными быть чистыми и направлены на то, в конце концов, что вы будете работать с людьми, а не с кошельками. К сожалению, не все это понимают.

**Алексей ШУНТОВ.**

АБСТРУКЦЫЯ

### Каліна скардзіцца…

На мінулым тыдні адыёзны спявак Каліна звярнуўся да Аляксандра Лукашэнкі: апазіцыянеры зрываюць канцэрты.

Так, не адбыліся яго выступленні ў Рэчыцы і Оршы. Сябры АГП, Партыі БНФ, БСДП(Г) і аргкамітэта па стварэнні Хрысціянска-дэмакратычнай партыі заклікалі адмяніць канцэрт у Гродне. Цяжка сказаць, ці адбудзецца 15 лістапада сустрэча Віктара Каліны са слухачамі ў Брэсце – у гарвыканкам паступаюць звароты жыхароў з патрабаваннем забараніць яго канцэрт.

І ўсё з-за «ўсхвалення «русского мира» і блатной рамантыкі», падтрымкі самаабвешчаных ДНР і ЛНР.

У такім выпадку дарэмна скардзіцца Каліна.

**Сяргей ГУРЫНОВІЧ.**

ГРОШЫ

### Кошт перамогі

*Агучаны памер прэміяльных для беларускіх алімпійцаў на зімовых Гульнях-2018.*

Шэф місіі алімпійскай каманды Беларусі **Аляксандр Барауля паведаміў,** што за залаты медаль дзяржава заплаціць спартсмену 150 тысяч долараў, за сярэбраны – 75 тысяч, за бронзавы – 50 тысяч. Як бачым, прызавыя з моманту апошняй Алімпіяды не змяніліся.

Нагадаем, што Гульні-2018 у карэйскім Пхёнчане стартуюць 9 лютага.

Народная Воля http://www.nv-online.info
8 ЛІСТАПАДА 2017 г.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Ігар КРЫВУШЭНКА:

# «За сваё крэсла не трымаюся...»

*Галоўны трэнер зборнай Беларусі па футболе распавёў "Народнай Волі" пра тое, чаго не хапае нацыянальнай камандзе.*

Днямі старшыня асацыяцыі "Беларуская федэрацыя футбола" **Сяргей Румас** заявіў, што настаўнік зборнай **Ігар КРЫВУШЭНКА** працягне работу з камандай…

**– У адборачным турніры да чэмпіянату свету 2018 года беларуская зборная заняла ў групе апошняе месца. Як самі ацэньваеце сваю працу?**

– Я прагледзеў шмат кандыдатаў у каманду, і зразумела, што, калі адсутнічае стабільны склад, вынік можа быць адмоўны. Хаця давайце па шчырасці – былі ж і добрыя гульні. Хіба балельшчыкаў не парадавала перамога над балгарамі? Але правалаў таксама хапала. Футбалісты часам дапускалі такія памылкі, што я, як прафесійны трэнер, нават не мог лагічна патлумачыць, чым гэта выклікана. Таму мне патрэбна было прагледзець усіх футбалістаў, выбраць лепшых і, калі пачнуцца афіцыйныя гульні ў наступным годзе, тады ўжо зрабіць работу над памылкамі.

**– Ваш лёс будзе залежаць ад выступлення зборнай у новым еўрапейскім турніры – Лізе нацый, дзе будуць спаборнічаць каманды-аўтсайдары…**

– Так, сапернікі будуць прыкладна нашага ўзроўню – Люксембург, Фарэры, Сан-Марына… Думаю, гэты турнір – добры шанц зляпіць каманду і паказаць сябе.



**– Напачатку вы сумяшчалі пасады галоўнага трэнера ў зборнай і ў жодзінскім "Тарпеда-БелАЗ". Можа быць, гэта было памылковае рашэнне з вашага боку?**

– Не лічу так. У мяне былі і застаюцца добрыя адносіны з кіраўніцтвам жодзінскага клуба, якое даверыла мне каманду, а таму я не мог проста так іх кінуць. Гэта было б няправільна і непрыгожа. Безумоўна, было няпроста сумяшчаць дзве пасады, але не думаю, што правалiў працу і там, і там.

**– Але ж затым пакінулі жодзінскі клуб. Прымусілі?**

– Была шчырая размова і з кіраўніцтвам федэрацыі, і з кіраўніцтвам клуба, таму прыйшлі да згоды, што засяроджуся толькі на зборнай.

**– Дзе складаней?**

– Паўсюль свая спецыфіка. У клубе ты працуеш з камандай штодзень і, што называецца, пастаянна трымаеш руку на пульсе. Нацыянальная каманда збіраецца толькі перад афіцыйнымі альбо таварыскімі матчамі, і падрыхтавацца неабходна за кароткі час.

**– Апошняе месца ў адборачнай групе – гэта сёння наш рэальны ўзровень?**

– Я ўпэўнены, што гэта не наша месца. І ў бліжэйшай будучыні пастараемся гэта даказаць. У Беларусі няма такіх футбалістаў, як Месі альбо Раналду, але і драматызаваць сітуацыю не варта.

**– Пра вашу магчымую адстаўку шмат пісалі ў СМІ, рабіліся розныя прагнозы. Як вы ўспрымалі такую крытыку і такія меркаванні?**

– Скажам так, душэўнай раўнавагі гэта мне не дадавала. Але я не першы год у футболе, шмат праз якія выпрабаванні прайшоў, таму цудоўна разумею, што адстаўка – адзін са складнікаў трэнерскай прафесіі. За сваё крэсла я ніколі не трымаўся і не трымаюся. Проста раблю справу.

**Алесь СІВЫ.**

**P.S.** *У бліжэйшыя дні зборная Беларусі правядзе два таварыскія матчы. 9 лістапада наша каманда згуляе ў Ерэване са зборнай Арменіі, а 13 лістапада ў Кутаісі – з Грузіяй.*

МОДА



## Так будуць выглядаць вайскоўцы

Са снежня беларускія вайскоўцы будуць насіць зімовыя курткі новых узораў. Яны з баваўнянай тканіны і з тэкстыльным каўняром.

Чакаюцца некаторыя змены ў зімовай баявой форме адзення. Замест вушанкі – вязаная шапачка ахоўнага колеру. Дадаткова могуць быць уведзены джэмпер паўшарсцяны аліўкавага колеру і чаравікі юхтовыя з высокімі берцамі (зімовыя). Пра гэта паведаміў начальнік 1-га аддзела рэчавага ўпраўлення Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь **Сяргей Швед.**

ШАШКІ

## Школа кампазіцыі

Праблему-64 №6 **Рымаса Мацкявічуса** ("НВ" ад 10.10.2017) вядучы рубрыкі прапануе ў такім выглядзе:
**Белыя**: a1, c1, e3, f2, f4, g1, g3, g5, h2 (9).
**Чорныя**: a5, b8, c3, c5, d6, e5, e7, f6, h4, h6 (10).
d4, b4, cb2, d4, g7…
Літоўскі маэстра згадзіўся на суаўтарства.

Праблему-100 №12 **Івана Івацкі** ("НВ" 10.10.2017) наш пастаянны ўдзельнік рубрыкі **Генадзь Андрэеў** з Латвіі прапануе апрацаваць без шашак на перадамачных палях:
**Белыя**: 17, 21, 22, 26, 33, 39, 40, 42, 48 (9).
**Чорныя**: 13,16, 18, 23, 27, 31, 32, 35, 37 (9).
29, 12, 43, 8, 2, 22 x.

## Запрашаем на чэмпіянат

Аб'яўлены 2-і чэмпіянат свету па складанні праблем-64.

Для ўдзелу ў чэмпіянаце можна даслаць па дзве пазіцыі ў кожнай з чатырох катэгорый да 1 студзеня 2018 года на адрас каардынатара **Віктара Шульгі**: ***220051 Мінск-51, а/я 52***, або на электронны адрас: **shulga.checkers@gmail.com.** З рэгламентам можна азнаёміцца на шашачным сайце "Планета".

## Бліц-конкурс

Для чарговага бліц-конкурсу свае пазіцыі прапануе адэсіт **Сяргей Губачкін**. Знайдзіце выйгрыш за белых пры іх першым ходзе. Пераможцу чакае прыз – шашачная кніга.
№1 **Белыя**: b4, e5, e7, d6, h6 (5).
**Чорныя**: d2, h4, c5, g7, f8 (5).
№2 **Белыя**: g1, h2, b4, a5, e5, d6 (6).
**Чорныя**: d2, c3, e3, g3, f4, h6 (6).
№3 **Белыя**: b4, d4, c5, g5, f6 (5).
**Чорныя**: b2, d2, f2, a3, e3, h4(6).
№4 **Белыя**: g3, g5, f2, f4, e5, e7, d4 (7).
**Чорныя**: b2, d2, c3, h6, c7, g7 (6).
№5 **Белыя**: b4, h4, b6, d6, f6, c7, e7 (7).
**Чорныя**: d2, f2, c3, e3, f4, a5, g5, d8 (8).
№6 **Белыя**: f4, e5, g5, b6, d6, f6, h6, e7 (8).
**Чорныя**: b2, b4, d2, d4, c3, c5, a7, g7, f8, h8 (10).



№7 **Белыя**: b4, f4, c5, e5, g5, b6, f6, a7, c7 (9).
**Чорныя**: a5, c3, d2, d4, d8, e3, e7, f2, h4, h8 (10).
№8 **Белыя**: h2, b4, c5, g5, b6, d6, f6, h6, c7 (9).
**Чорныя**: b2, d2, f2, c3, e3, g3, f4, a5, d8 (9).

## Новыя кампазіцыі

Знаёмім з новымі праблемамі-100 мінчаніна **Івана Наўроцкага**. На гэты раз асаблівасць яго твораў – практычная расстаноўка шашак.
№9 **Белыя**: 11, 25, 27, 31, 33, 37, 38, 41, 43 (9).
**Чорныя**: 6, 12, 13, 14, 17, 18, 20, 22, 23, 34 (10).
17, 39, 10, 14, 29, 5, 21 x.
№10 **Белыя**: 27, 28, 37, 38, 42, 46, 49, 50 (8).
**Чорныя**: 8, 12, 17, 29, 30, 36, 39, 40 (8).
50-44, 31, 7, 44, 1, 21, 37, 37 x.
№11 **Белыя**: 11, 17, 25, 27, 28, 31, 38, 48 (8).
**Чорныя**: 3, 6, 8, 15, 19, 29, 39, 40 (8).



43, 33, 2, 28-22, 20, 8, 22 x.
№12 **Белыя**: 16, 17, 21, 33, 34, 36, 38, 39, 40, 41, 47 (11).
**Чорныя**: 6, 8, 12, 14, 19, 23, 24, 25, 26, 29. 35 (11).
30, 42, 31, 9, 3, 13 x.

## Супаставім рашэнні

"Народная Воля" ад 15 жніўня 2017 года.
№6 – h6, e3, d4, g1 x.
№7 – b6, d6, d8, g7, a1 x.
№8 – ab6, ed6, b6, a1, h8 x.
№9 – bc7, e7, h8, e7 x.
№10 – f8, f2, b8, b4, h6 x.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі, Эдуард Дамброўскі** (Мінск), **Аляксандр Шурпін** (Івянец), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Мікалай Зайцаў** (Баранавічы), **Рыгор Краўцоў** (в. Рублеўск Круглянскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Аляксандр Голуб** (п. Талька Пухавіцкага раёна), **Уладзімір Панько** (Камянец).

Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць.

Свае лісты дасылайце на адрас: ***220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, "Шашкі"***

або на электронны адрас: **shulga.checkers@gmail.com.**

**Віктар ШУЛЬГА,
міжнародны майстар спорту
па шашачнай кампазіцыі.**




ЗАОЧНЫЙ ДИАЛОГ

## Осенний посев моркови

Валентина ДАНИЛЬЧИК (г.Молодечно):

**– Лук и озимый чеснок я обычно высаживаю осенью, до заморозков. И неплохо все получается – урожаем довольна. А вот морковь никогда не пробовала высевать в это время. Что вы посоветуете?**

– Попробуйте. Думаем, у вас все получится. Семена высевайте где-то в середине ноября, если почва к этому времени не замерзнет.

**– Семена каких сортов пригодны для этой цели?**

– «Нантская 4», «Московская зимняя», «Шантанэ 2461» и «Лосиноостровская 13».

**– Органических удобрений у меня нет. Какие минеральные можно вносить в почву и сколько?**

– Из минеральных вносят два спичечных коробка двойного суперфосфата, 1 коробок сульфата калия, 1 чайную ложку натриевой селитры и 0,5 литра золы на 1 кв. метр площади.

**– А чем подкармливать всходы моркови и в каких дозах?**

– За сезон растения подкармливают два раза: первый – через 20 дней после появления всходов (на 10 л воды добавьте 1 столовую ложку калийной селитры, 1,5 ложки двойного суперфосфата и 1 чайную ложку мочевины). Вторую подкормку проведите через 12 дней (1 столовая ложка сульфата калия, стакан куриного помета и 1 чайная ложка полного минерального удобрения на 10 л воды на 1 кв. метр).

Не опаздывайте с прополкой и прореживанием всходов.

ДЕЛИМСЯ ОПЫТОМ

## Как сохранить до весны лук-севок

Чтобы лук-севок во время хранения не болел, просушиваю его при температуре 30–35 градусов, а затем храню при температуре 20 градусов. Хранение лука при высокой температуре приводит к большой потере влаги, а очень мелкие луковицы высыхают полностью. Поэтому их лучше хранить при температуре от 0 до 2 градусов. В этих условиях стадию яровизации он не проходит.

Мелкий лук-севок можно хранить холодно-теплым способом. При этом после просушки его нужно хранить при температуре 18–20 градусов, а с наступлением холодов перенести в помещение с температурой до 1 градуса и оставить там до наступления теплой погоды. За 2–3 недели до начала высадки лук-севок должен храниться при 20–25 градусах.

Для предупреждения образования стрелок и активизации роста зачатков, а также для обеззараживания лук-севок перед посадкой нужно прогреть при температуре 40 градусов в течение 8 часов.

**Екатерина КОТОВА.** *Щучинский район.*

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## Не успели осенью – высевайте весной

Лучшим временем для посева семян яблони и груши считается поздняя осень. Семена, высеянные в это время, без промедления и дружно всходят ранней весной. Нападение мышей, запоздалое получение семян по почте и другие причины заставляют иногда отложить посев до весны. В таких случаях семена пескуют, то есть смешивают с влажным песком. На 1 часть семян берется 4–6 частей песка. Тщательно перемешав семена с песком, их насыпают в ящики, плошки и другую посуду нетолстым слоем (20–30 см). Сохранять семена надо в непромерзающем помещении – погребе, подвале, яме. Так как запескованные семена прорастают очень рано, то и высевать их необходимо как можно раньше весной, едва только оттает почва. Проросшие семена высеваются осторожно, чтобы не поломать ростки. При осеннем посеве семян их хорошо защищает от нападения мышей окраска суриком, которая садоводами, к сожалению, редко применяется.

## Их убежище – под листвой

Еще в то время, когда листья держатся на ветвях, различные насекомые откладывают на них свои яички, которые после опадения листвы, предохраняющей их всей своей массой от морозов, спокойно перезимовывают, и ранней весной вылупившиеся из этих яичек гусеницы бросаются на развивающиеся древесные почки, молодые листочки, цветы. Кроме яичек в толще листвы находят себе убежище и коконы, а весьма часто и гусеницы, которые без этого прикрытия не в состоянии были бы выдержать морозы. Не следует забывать также и о зимних спорах различных грибков, прилипших или внедрившихся в опалый сухой лист. Ввиду вышесказанного опавшие в плодовом саду листья нужно еще с осени тщательно сгрести и тем или иным способом использовать: или на подстилку скоту, или при возведении компостной кучи, или в крайнем случае сжечь. Кто не выполнил эту работу осенью, тот должен позаботиться о ее выполнении ранней весной.

НА ЗАМЕТКУ

## Подземные пахари

Дачники и владельцы приусадебных участков перепробовали различные способы борьбы с кротами, но уничтожить их никак не могут. Вроде бы на какое-то время вредители исчезают, а весной следующего года, смотришь, опять появляются. Поэтому в почте «Усадьбы» время от времени появляется одна и та же просьба: кроты перепахивают огород, трудов жалко – посоветуйте, как с ними справиться.

Этих вредных животных специалисты рекомендуют истреблять специальными ловушками. Если же таких ловушек у вас нет, предлагаем следующие способы.

**1-й способ.** Положить поглубже в норы вареных раков, запах которых надолго прогонит кротов из них. Это простое средство, как доказано опытом, весьма действенно.

**2-й способ.** Срезанные ветви рябины воткнуть в землю вокруг тех мест, которые надо защитить от появления в них кротов.

**3-й способ.** В отверстие нор всыпать по ложке негашеной извести, потом эти отверстия затоптать и, набросав на них свежей земли, плотно ее утрамбовать. Когда крот начнет рыть землю, чтобы очистить себе выход из норы, известь попадет ему в нос или глотку и отравит его. Следует это делать только в ясную погоду, чтобы сырость не обратила известь в гашеную, которая для кротов безвредна.

**4-й способ.** Разварить грецкие орехи до того, чтобы скорлупа их сделалась настолько мягкой, что ее можно было резать ножом. Разрезав их на куски, разбросать в кротовые норы.

**5-й способ.** В каждую кротовую нору кладут по кусочку камфоры величиной с горошину.

СЕМЕЙНАЯ ФЕРМА

## Где и как содержать коз

Козы неприхотливы к условиям содержания. Это может быть хлев, сарай, овчарня. Можно их содержать во дворе под навесом, ведь козы боятся не холода, а сырости. Только все же с наступлением зимы их нужно переводить в помещение.

Помещение для коз должно быть светлым и сухим, с обязательным доступом свежего воздуха, но без сквозняков. Окна обычно устраивают с солнечной стороны на высоте 1,7–2 метра, высота самих окон 50–60 сантиметров, ширина 70–80 сантиметров. Двери должны быть двойные или с тамбуром. Если есть бревенчатое помещение, его всегда можно приспособить для коз, устранив щели и плотно пригнав двери.

Подстилка должна быть постоянно свежей. Обычно для этого используют солому, но можно применять опилки, хвою. Полы в козлятнике могут быть деревянные, глинобитные или земляные, но с обязательным уклоном для стока навозной жижи.

Козы не выносят жизни взаперти, без прогулок. Содержание коз в сырых, темных, загазованных помещениях отрицательно сказывается на их здоровье, качестве пуха, шерсти и молока. При таком «карцерном» содержании животные болеют, поэтому к основному помещению пристраивают базок – место для выгула.

Взрослых животных можно содержать группами, но козлы должны проживать отдельно, иначе молоко дойных коз приобретет неприятный козлиный запах. Козоводы могут устранить запах, удалив козлов из стада (то есть прибегнуть к искусственному осеменению).



**Раздел ведет агроном Федор ВЕРАВОЙША.**

Адрас рэдакцыі:
220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 7.11.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 015 экз. Заказ № 4177.

